# Як мёрскія парафіяне касцёл і парафію адстаялі...

(Паводе кнігі "Святыня над возерам" Вітольда Ермалёнка)



**Савецкія ўлады 30 ліпеня 1949г. у Мёрах правялі канфіскацыю касцельнай маёмасці і будынкаў плябаніі, гаспадарчых пабудоў на суму ў 16027 рублёў і 1900 рублёў аблігацыямі. 105 касцельных прадметаў ацэнена ў суму 11906 рублёў. Плябанія стала выкарыстоўвацца як бальніца, а гаспадарчыя будынкі разабраны, і з іх зрабілі неабходныя для бальніцы памяшканні.**

■ Падрыхтаваў кс. Віктар Місевіч

Горшы лёс быў касцёла. Велічны, прыгожы архітэктурны будынак быў прыстасаваны пад склад збожжа, і так выкарыстоўваўся на працягу некалькіх гадоў. Савецкія ўлады не звярталі ўвагі на значэнне храма як помніка неагатычнай архітэктуры. Вернікі, каб захаваць інтэр'ер святыні, закрылі алтары і абразы палатном, некаторыя касцельныя рэчы былі схаваны ў закрыстыі. Колькі смутку і душэўнага болю прыйшлося перажыць шчырым католікам, сэрца крывёю аблівалася, калі яны бачылі, як у іх святыню згружаюць з машын і вазоў зерне. Таму адразу пасля смерці Сталіна ў 1953г. парафіяне з мёрскага касцёла пачалі дабівацца вяртання святыні і рэгістрацыі ў парафіі ксяндза Рышарда Стогандаля. Тэкст заявы мёрскага касцельнага камітэта на мове арыгінала:

*"Уполномоченному Совета по делам религиозных культов при СНК СССР по Полоцкой обл. БССР в Полоцке от верующих Миорского Римско-католического прихода в Миорах Полоцкой области*

*Заявление.*

*Мы, нижеподписавшиеся представители Миорского костельного комитета, обращаемся к Вам с просьбой. Ввиду того, что мы обращались к Вам 6 октября 1953 года с заявлением и просили Вас возвратить наш Миорский костел, который был взят от нас в 1949г., а также зарегистрировать настоятеля Стогандаль Рышарда Станиславовича, но Вы не вынесли никакого решения в то время на это заявление, но обещали выслать письменно его во вторник 20 октября 1953 года. С этой надеждой мы уехали от Вас. Но прошло много вторников с того времени, а ответа нам никакого от Вас нет. Поэтому обращаемся к Вам вторично и просим Вас убедительно вынести нам решение и без отказа. Просим не отказать в нашей просьбе."*

### Дапамаглі ваенныя ўзнагароды

Настойлівасць мёрскіх парафіян прынесла станоўчы вынік. 9 студзеня 1954 года храм вярнулі католікам, але ў рэгістрацыі ксяндза Стагандаля адмовілі. І раённыя, і абласныя, і рэспубліканскія ўлады пакідалі звароты і подпісы католікаў без увагі. У 1955 годзе парафіяне з Мёраў распачалі старанні, каб улады дазволілі служыць у Мёрах ксяндзу Вікенцію Віршу. Яны нават не спалохаліся звярнуцца на самы высокі ўзровень – у Савет па справах рэлігійных культаў пры Савеце Міністраў СССР. З гэтай мэтай сабралі подпісы і грошы для паездкі ў сталіцу Савецкага Саюза сябру касцельнага камітэта Будрэвічу. Аднак яго паездка не прынесла плёну. Стаяла пагроза, што без святара храм ізноў могуць забраць пад склад зерня. Але тут перамагла настойлівасць парафіян. Яны накіроўваюць у Маскву іншага сябра касцельнага камітэта Сцяпана Мацука. Ён быў удзельнікам ІІ Сусветнай вайны, адзначаны ўзнагародамі за штурм Берліна, таму і з'явіўся ў Маскву пры сваіх узнагародах. Яму ўдалося патрапіць на прыём да ўпаўнаважанага па справах рэлігіі пры Савеце Міністраў СССР І. В. Палянскага. Узнагароды ветэрана ІІ Сусветнай вайны выклікалі павагу. Прадстаўнік парафіі распавёў аб перашкодах, якія чыняць вернікам мясцовыя ўлады і паказаў лісты з подпісамі пяцісот католікаў, якія жадалі маліцца ў касцёле з ксяндзом. Тут жа ўпаўнаважаны патэлефанаваў у Мінск і запатрабаваў неадкладнага станоўчага вырашэння пытання з прапіскай святара ў Мёрах. І сапраўды, не паспеў Сцяпан Мацук прыехаць у Мёры, як ксёндз Ян Грабоўскі, які нядаўна вярнуўся са сталінскіх лагераў, быў прапісаны ў хаце Мацукоў, дзе і пражыў каля дзесяці год.

Ксёндз Ян Грабоўскі прыняў касцёл у жахлівым стане. Працякаў дах, праз разбітыя вокны свабодна прыляталі птушкі, якія вілі гнёзды на сценах і забруджвалі храм. У святыні былыя гаспадары пакінулі кучы смецця. Ксёндз Ян разам з парафіянамі хутка прыняўся за працу. У савецкія часы эпохі татальнага дэфіцыту складана было раздабыць нават банку фарбы, а тут яе было патрэбна шмат. Але за некалькі месяцаў рамонт касцёла паспяхова завяршыўся. Святыня была рэкансэкравана ва ўрачыстасць Звеставання 25 сакавіка 1957 года. Ксёндз Грабоўскі аддаў служэнню Богу і людзям у Мёрах амаль 30 гадоў, і гэта былі самыя цяжкія часы для вернікаў і святара. Савецкая ўлада, нягледзячы на тое, што ў Канстытуцыі СССР існаваў асобны артыкул аб свабодзе сумлення, супраць вернікаў і святароў выкарыстоўвала самыя розныя сродкі праследу: запалохванне, штрафы, маральны ўціск, немагчымасць рабіць навуковую і працоўную кар'еру. У 1978 годзе першы сакратар камуністычнай партыі БССР Пётр Машэраў сказаў: "Я дазволю лепш адчыніць 30 праваслаўных цэркваў, чым адзін касцёл".

### Начная канспірацыя

Здаецца неверагодным, але ў 1977 годзе мёрскі пробашч Ян Грабоўскі з парафіянамі ажыццявілі надзвычай складаную справу. Замест панішчанага старога аргана ў касцёл набылі новы інструмент з рыжскага касцёла. Ксёндз Ян сабраў на хутары Вацлава Сушко ля Мёраў вернікаў-мужчын, каб дапамаглі разгрузіць машыну з Латвіі. Усё адбывалася ноччу, патаемна, каб ніхто не даведаўся і не данёс уладам. Спачатку часткі аргана апоўначы разгрузілі ў хаце Сушко. Шафёр мёрскай пажарнай часткі Ян Лучыновіч здолеў узяць грузавую машыну, быццам для асабістых патрэб. І ў тры гадзіны ночы, каб ніхто не бачыў, перавезлі шмат скрынак з трубамі для аргана ў касцёл. Потым пробашч знайшоў майстра, які рэканструяваў арган.

Смелая і адданая праца кс. Яна Грабоўскага была добрым зернем на Божай раллі. У красавіку 1973 года прадстаўнік мёрскага райвыканкама Н. Сцепулёнак дакладваў упаўнаважанаму па справах рэлігіі пры Віцебскім аблвыканкаме, што на Вялікдзень у мёрскім касцёле малілася 1200 вернікаў, з іх маладых людзей 95, 8 дзяцей школьнага ўзросту і 12 дашкольнага. Інфармацыйны ліст старшага інспектара Савета па справах рэлігіі СССР па Беларусі А. Панамарова ад 23 красавіка 1976 года змяшчае наступны тэкст. *"Вечарам напярэдадні Пасхі ў касцёле малілася 250-300 чалавек, на другі дзень у сем гадзін раніцы малілася ўжо 800-900 чалавек, паміж імі шмат сярэдняга і маладога ўзросту і каля 40 дзяцей школьнага ўзросту. Вялікая колькасць вернікаў прыехала на роварах, матацыклах, асабістых аўтамабілях, а таксама грузавых машынах арганізацый Шаркаўшчыны і Дзісны. Ксёндз Ян Грабоўскі амаль у кожным казанні заклікае веруючых, каб рыхтавалі сваіх дзяцей да першай споведзі і Камуніі, пры гэтым ён спасылаецца на Заключны Акт нарады па бяспецы і супрацоўніцтве ў Хельсінках, дзе было сказана аб свабодзе выхавання дзяцей у сям'і на рэлігійных пераконаннях".*




**Кніга "Святыня над возерам" пад аўтарствам мёрскага гісторыка Вітольда Ермалёнка выйшла ў свет у 2020 годзе ў выдавецтве "Капитал Принт". У кнізе аўтар на аснове архіўных і гістарычных крыніц распавядае аб гісторыі касцёла ў Мёрах ад пачатку ўзнікнення каталіцкай святыні і парафіі да 2020 года.**

Каталіцкі ВЕСНІК №7 (112) ліпень 2020 г.

# Каляндар на жнівень

**6 жніўня – свята Перамянення Пана.**



Гэтае свята звязваюць з цудам, якое Езус Хрыстус здзейсніў напрыканцы Свайго зямнога шляху перад трыма апосталамі – Пятром, Якубам і Янам. Хрыстус прывёў Сваіх вучняў на гару Табор і адкрыў, што Яму належыць пакутаваць за людзей, памерці на крыжы і ўваскрэснуць. Там Ён перамяніўся перад апосталамі: твар Яго заззяў, а вопратка зрабілася асляпляльна белай. Два прарокі Старога Запавету – Майсей ды Ілля – з'явіліся Госпаду на гары і размаўлялі з Ім. А голас Бога Айца са светлага воблака сведчыў пра Боскасць Хрыста.

Лічыцца, што на гары Табор Езус упершыню паказаў людзям сваю Боскую сутнасць. Вучні ўсвядомілі, што перад імі не проста прарок, але Сам Пан. Свята Перамянення Пана нагадвае вернікам на прыкладзе Езуса Хрыста пра неабходнасць духоўнага перамянення і ўдасканалення. Лічыцца таксама, што гэтае свята звязана са старазапаветным днём асвячэння пладоў. Так, на Усходзе ў пачатку жніўня выспяваюць злакі і вінаград, якія хрысціяне прыносяць у храм для блаславення.

**8 жніўня – успамін святога Дамініка, святара.**




Святы Дамінік, заснавальнік ордэна дамініканаў, нарадзіўся каля 1170 года ў Іспаніі. У 1184 годзе ён паступіў у школу ў Паленсіі, дзе вывучаў "вольныя мастацтвы" і багаслоўе. З юнацтва Дамінік праслаўіўся незвычайнай дабрынёй (вядома, што ён прадаў свае кнігі, каб выкупіць палонных хрысціян у маўраў). У 1196 годзе ён атрымаў святарскае пасвячэнне і стаў чальцом (з 1201 г. – намеснікам настаяцеля) капітулы рэгулярных канонікаў у Осме. Аднойчы падчас дыпламатычнага падарожжа ў Данію праз Паўднёвую Францыю Дамінік усю ноч правёў у дыскусіі з адным з ерэтыкоў-катараў, спрабуючы пераканаць яго вярнуцца да каталіцкай веры. Пасля таго, як гэты чалавек выракся ерасі, у Дамініку пачала ўзрастаць думка стаць вандроўным тэолагам-прапаведнікам, і ён прысвячае сваё жыццё місіянерскай дзейнасці і сведчанням пра сапраўдны Касцёл Хрыста.

У 1206 г. Дамінік пры дапамозе біскупа Дыега заснаваў жаночую манаскую супольнасць у Пруе. З 1209 па 1213 гг. ён прапаведаваў падчас крыжовага паходу супраць ерасі альбігойцаў. За некалькі гадоў плённай працы Дамініку ўдаецца навярнуць шмат падманутых ерэтыкамі людзей, і вакол яго збіраецца кола аднадумцаў. У 1215 г. яны стварылі жабрачы закон вандроўных прапаведнікаў – дамініканцаў. 22 снежня 1216 г. была апублікаваная була Папы Ганорыя III Religiosam vitam, якая зацвердзіла новы ордэн, галоўнай задачай каторага стала вывучэнне навук і пропаведзь Евангелля. Асноўнымі прынцыпамі дзейнасці закона сталі ўбоства і навука, скіраваныя на абарону чысціні веры Касцёла.

Дамінік памёр 6 жніўня 1221 года ў Балоні (Італія) і ўжо ў 1234 годзе быў далучаны да ліку святых Папам Рыгорам IX. Яго цела спачывае ў дамініканскім кляштары ў Балоні.

**10 жніўня – свята святога Лаўрэнція, дыякана і мучаніка.**



Паводле падання, Лаўрэнцій паходзіў з Іспаніі. Ён быў дыяканам і служыў пры св. Папу Сіксту II, з якім яго звязвалі блізкія сяброўскія адносіны. 6 жніўня 258 г. падчас пераследу цэзара Валяр'яна Папу і чацвярых яго дыяканаў, у тым ліку і Лаўрэнція, арыштавалі на набажэнстве ў рымскіх катакомбах Калікста. Папу ў той жа дзень адсеклі галаву (успамін св. Сікста II, Папы і мучаніка, прыпадае на 7 жніўня), а праз чатыры дні мучаніцкую смерць прыняў таксама і Лаўрэнцій: ён быў спалены жывым. Перад смерцю цэзар запатрабаваў у яго выдаць багацці хрысціянаў, на што святы, паказваючы на жабракоў, сказаў: "Вось сапраўднае багацце Касцёла!"

Цела святога Лаўрэнція спачывае ў базіліцы, што носіць яго імя і з'яўляецца адным з найважнейшых касцёлаў Рыма, а галава святога – адна з найкаштоўнейшых рэліквій хрысціянства – захоўваецца ў Ватыкане. Святога Лаўрэнція заўсёды ўшаноўвалі і на Захадзе, і на Усходзе, а ў Рыме ён лічыцца трэцім пасля святых апосталаў Пятра і Паўла ў іерархіі культу. Святы з'яўляецца апекуном пажарных, яго заступніцтва просяць пры хваробах скуры, а таксама ад пажараў і мукаў чысцца.

**11 жніўня – успамін св. Клары.**



Святая Клара паходзіла з арыстакратычнай сям'і. Нарадзілася ў 1194 годзе. Маці, молячыся напярэдадні родаў у саборы Святога Руфіна, пачула голас, які прадказаў ёй нараджэнне дзяўчынкі: "Жанчына, ня бойся, бо ты шчаслівa народзіш яркі прамень, які асвятліць свет". Таму дзяўчынку назвалі Кларай, што значыць "светлая". Пасля сустрэчы з Францішкам Асізскім (1211 год), які прапаведаваў ідэалы беднасці, цноты і манаскай паслухмянасці, Клара даручыла сябе яго духоўнаму кіраўніцтву. Яна таемна пакінула бацькоўскі дом і прыняла ад Францішка манаскае адзенне ў Асізі. Разам са сваёй сястрою Агнешкай яна пасялілася пры касцёле святога Дам'яна непадалёк ад Асізі, побач з якім праз нейкі час утварыўся невялікі кляштар. Ён стаў першай сядзібаю ордэна Убогіх Сясцёр — кларысак, статут якога напісаў сам святы Францішак. Жыццё кларысак было ўладкаванае па прыкладзе жыцця жабрачых супольнасцей францішканцаў. Клара мела вельмі вялікі аўтарытэт у тагачасным Касцёле: па парады да яе звярталіся біскупы, кардыналы і Папы. Святая чэрпала са сваёй эўхарыстычнай веры вялікую сілу, якая рабіла яе бясстрашнай нават перад нашэсцем сарацынаў: Клару прывялі на гарадскую сцяну, у руках яна трымала Найсвяцейшыя Дары. Убачыўшы яе, войска кінулася ва ўцёкі.

Клара, якая на працягу трыццаці гадоў да самай смерці пакутавала ад хваробаў, адышла з гэтага свету 11 жніўня 1253 г. у сваім кляштары. Рэліквіі святой Клары, каторая з'яўляецца апякункаю тэлебачання, знаходзяцца ў касцёле яе імя ў Асізі. Праз яе заступніцтва просяць дапамогі пры хваробах вачэй і слепаце.

**14 жніўня – успамін св. Максімільяна Марыі Кольбэ, святара і мучаніка.**



Святы Максімільян нарадзіўся 8 студзеня 1894 г. у Здуньскай Волі каля Лодзі (Польшча). Вучыўся ў Рыме, меў ступень доктара. У 1918 годзе атрымаў святарскія пасвячэнні ў ордэне францішканаў. З'яўляецца заснавальнікам апостальскага таварыства "Рыцарства Беззаганнай" і рэлігійнага часопіса "Рыцар Беззаганнай". У час акупацыі арыштаваны і вывезены ў канцлагер у Асвенціме. Там ахвяраваў сваё жыццё за бацьку адной сям'і. Памёр у камеры смерці ў ліпені 1941 г. Беатыфікаваны Папам Паўлам VI 17 кастрычніка 1971 г., а Папа Ян Павел II кананізаваў Максімільяна Марыя Кольбэ 10 кастрычніка 1982 г.

**15 жніўня – урачыстасць Унебаўзяцця Найсвяцейшай Панны Марыі.**



У 1950 годзе Папа Пій XII асаблівым дэкрэтам афіцыйна прыняў дагмат аб цялесным Унебаўзяцці Маці Божай на неба. Касцёл ушаноўваў мучанікаў у дзень іх "нараджэння для неба", г.зн. у дзень іх смерці. Свята, якое ўзнікла ў IV ст. на ўшанаванне Маці Божай, называлася "Памяццю Святой Марыі", змест яго быў звязаны з Яе "нараджэннем для неба" і ў хуткім часе яно было перайменавана ва "Успенне Марыі" (V ст.), "Пераход" (VI ст.), а потым "Унебаўзяцце" (VIII ст.).

З VI ст. на Усходзе 15 жніўня пачало адзначацца свята "шлях Марыі дадому". У гэтым дагмаце адлюстравалася вера, якой спрадвеку прытрымліваўся Касцёл. Яе смерць была настолькі іншай, што Касцёл гаворыць не пра смерць, але пра пераход. Так павінны былі перайсці ў жыццё вечнае жыхары раю; толькі грэх прывёў на свет смерць (гл. Рым 5, 12). Унебаўзяцце Марыі з душой і целам не азначае аддаленасці Маці Божай ад людскіх спраў. "У сваім Успенні Ты не пакінула свету, о Маці Божая: паядналася з крыніцаю жыцця, Ты, Якая зачала Бога Жывога, і сваімі малітвамі вызваляеш нас ад смерці" – спявае Касцёл у сваёй візантыйскай літургіі.

У дзень Унебаўзяцця Найсвяцейшай Панны Марыі існуе традыцыя ў знак падзякі прыносіць першыя плады новага ўраджаю. У гэты дзень для вернікаў з'яўляецца абавязковым удзел у св. Імшы.

**22 жніўня – свята Найсвяцейшай Панны Марыі Браслаўскай, Валадаркі Азёраў.**



Пра касцёл у Браславе ведаюць шматлікія вернікі не толькі Віцебскай дыяцэзіі, але і ўсёй Беларусі. Падставай гэтаму служыць цудадзейны абраз Маці Божай Браслаўскай, які знаходзіцца ў галоўным алтары святыні. 22 жніўня 2009 года Браслаўская парафія Нараджэння Найсвяцейшай Панны Марыі перажыла велічную і значную падзею – каранацыю папскімі каронамі цудатворнага абраза Маці Божай Валадаркі Азёраў. Штогод на ўрачыстасць Маці Божай Браслаўскай прыязджае вялікая колькасць вернікаў з усёй Беларусі, каб выказаць Ёй сваю падзяку і пашану.

## На жнівень прыпадаюць дні нараджэння, імяніны і гадавіны святарскага пасвячэння ў наступных святароў:

**3 жніўня** – **дзень нараджэння** адзначае **кс. Мікалай Ліпскі** *(Новалукомль)*;

**4 жніўня** – **дзень нараджэння** адзначае **а. Яраслаў Банасяк OFMConv** *(Удзела)*;

**5 жніўня** – **гадавіну святарскага пасвячэння** адзначае **кс. Юрый Жаўняровіч** *(Ахрэмаўцы)*;

**6 жніўня** – **дзень нараджэння** адзначае **біскуп Аляксандр Яшэўскі SDB**, дапаможны біскуп Мінска-Магілёўскай архідыяцэзіі;

**7 жніўня** – **дзень нараджэння** адзначае **кс. Уладзімір Шымковіч** *(Орша)*;

**10 жніўня** – **дзень нараджэння** адзначаюць **кс. Вячаслаў Адамовіч** *(Ідолта)*, **кс. Станіслаў Скрыдалевіч SAC** *(Талачын)*; **гадавіну святарскага пасвячэння** адзначае **а. Кляменцій Верт SJ** *(Віцебск)*;

**14 жніўня** – **гадавіну святарскага пасвячэння** адзначае **а. Віктар Жук SJ** *(Віцебск)*;

**15 жніўня** – **дзень нараджэння** адзначае **а. Крыштаф Коц'ян OP** *(Віцебск)*;

**16 жніўня** – **дзень нараджэння** адзначаюць **кс. Крыштаф Сілкоўскі SCJ** *(Паставы)*, **кс. Генадзь Рэйшаль** *(Шаркаўшчына)*;

**17 жніўня** – **імяніны** адзначае **кс. Яцэк Хутман** *(Камаі)*;

**18 жніўня** – **гадавіну святарскага пасвячэння** адзначаюць **кс. Вячаслаў Адамовіч** *(Ідолта)*, **кс. Валерый Марціноўскі** *(Паставы)* і **кс. Антон Лагунёнак** *(Віцебск)*;

**21 жніўня** – **дзень нараджэння** адзначае **кс. Дзмітрый Рацько** *(Празарокі)*; **гадавіну святарскага пасвячэння** адзначае **а. Аляксей Варанко** *(Віцебск)*;

**26 жніўня** – **дзень нараджэння** адзначае **кс. Андрэй Кулік** *(Мёры)*;

**28 жніўня** – **дзень нараджэння** і **імяніны** адзначае **кс. Аляксандр Дулінец** *(Мёры)*;

**31 жніўня** – **дзень нараджэння** адзначае **кс. Уладзімір Заянчкоўскі** *(Лепель)*.

*Падрыхтавала*
***Вікторыя Колзун***



**Фэст у Браславе, 2015 год.** *Фота waladarka.by*

**24 жніўня – свята св. Барталамея, апостала.**



Евангеліст называе Натанаэлем таго Апостала, якога іншыя евангелісты называюць Барталамеем. Яго знаёмству з Хрыстом першапачаткова спадарожнічалі насцярожанасць і нават недавер. Тым не менш сэрца Натанаэля відавочна было адкрытае на пошук праўды, і, пераканаўшыся ў Божай моцы Езуса, ён прызнае Яго Месіяй, Сынам Божым. "Сапраўдны ізраільцянін" – так называе Натанаэля Езус. Падобнае імя – Ізраэль, гэта значыць, "той, які змагаўся з Богам", калісьці атрымаў ад Бога пасля цяжкай духоўнай барацьбы Якуб, адзін з родапачынальнікаў абранага народа (Быц 32, 28-30). Ён змагаўся з Богам, каб атрымаць Яго блаславенне. Магчыма, таму Езус менавіта так называе Натанаэля, што пад таямнічаю смакоўніцаю адзін толькі Бог бачыў і ягонае нейкае ўнутранае змаганне. Верагодна, быў гэта нейкі вельмі асабісты эпізод з яго жыцця. Езус сваімі Божымі вачыма бачыў усё: і змаганне Натанаэля, і ягонае пачуццё адзіноты. Гэта і растапіла ў сэрцы Натанаэля пачатковы лёд недаверу.

Святы Барталамей нарадзіўся на пачатку I ст. у Кане Галілейскай, а да Хрыста яго прывёў апостал Філіп. Пасля ўваскрасення Збаўцы Барталамей абвяшчаў Евангелле ў Арменіі, Месапатаміі і Індыі, аздараўляючы хворых і апантаных. Апостал быў забіты ў сярэдзіне I ст.: з яго жыўцом садралі скуру. Святы Барталамей з'яўляецца апекуном шахцёраў і мяснікоў, а таксама яго заступніцтва просяць пры нервовых і скурных хваробах.

*Падрыхтавала*
***Вікторыя Колзун***

# Працягні выраз з Евангелля



**"Не хлебам адным будзе жыць чалавек ...". "... а кожным словам, што выходзіць з вуснаў Божых". А вы зможаце працягнуць вядомыя выразы з Евангелля? Прапануем вам праверыць, наколькі добра вы ведаеце Святое Евангелле. Праверце свае веды ў новым тэсце "Каталіцкага Весніка".**

**1** Лягчэй вярблюду прайсці праз ігольнае вушка, чым... (Мц 19, 24)



**А.** Таму, хто не верыць, убачыць Бога.
**Б.** Багатаму ўвайсці ў Валадарства Божае.
**В.** Грэшніку збавіцца.

**2** Бо, дзе двое ці трое сабраліся ў імя Маё... (Мц 18, 20)



**А.** Там Я ёсць сярод іх.
**Б.** Там Мой Касцёл.
**В.** Там добра і весела.

**3** Хто прыме гэтае дзіця ў імя Маё, той...(Лк 9, 48)



**А.** Мяне прымае.
**Б.** Добра робіць.
**В.** Узнагароджаны будзе.

**4** Бо так палюбіў Бог свет, што аддаў Сына свайго Адзінароднага, каб кожны, хто верыць у Яго,...(Ян 3, 16)

**А.** Быў збаўлены
**Б.** Мог вечна сузіраць хараство Пана.
**В.** Не загінуў, але меў жыццё вечнае.

**5** Ніхто не мае большай любові за тую, калі хто...(Ян 15, 13)

**А.** Любіць бліжняга свайго, як самога сябе.
**Б.** Жыццё сваё аддае за сяброў сваіх.
**В.** Жыццё сваё аддае за дзяцей сваіх.

**6** Шчаслівыя ўбогія духам, бо...(Мц 5, 3)

**А.** Іх ёсць Валадарства Нябеснае.
**Б.** Бо яны збаўлены будуць.
**В.** Вялікая іх узнагарода ў нябёсах.

**7** Дазвольце дзецям прыходзіць да Мяне і не забараняйце ім, бо...(Лк 18, 16)



**А.** Я іх люблю.
**Б.** Такім належыць Валадарства Божае.
**В.** Яны Мае сябры.

**8** Бо дзе скарб твой, там... (Мц 6, 21)



**А.** І дом твой.
**Б.** Будзе і сэрца тваё.
**В.** Душа твая.

**9** І пазнаеце праўду, а праўда...(Ян 8, 32)



**А.** Стане вашай радасцю.
**Б.** Супакоіць вас.
**В.** Вызваліць вас.

**10** Хто мае вушы, каб слухаць, няхай...(Мк 4, 23)



**А.** Мае вочы, каб бачыць.
**Б.** Слухае.
**В.** Маўчыць і слухае.

*Падрыхтавала*
***Вікторыя Колзун***

Правільныя адказы
на старонцы 16

**Каталіцкая капліца ў анкадыспансеры ў Віцебску**

У Віцебскім абласным клінічным анкалагічным дыспансеры па адрасе вул. П. Броўкі, 33 дзейнічае каталіцкая капліца. Ёсць магчымасць запрасіць святара ў палату.
**Тэл. +375(29) 510-20-77 кс. Андрэй Аніскевіч**
**Тэл. +375(29) 894-55-11 сп. Яўгенія**

## Пакой для малітвы

У Віцебскай абласной бальніцы знаходзіцца на другім паверсе галоўнага корпуса каля ліфта з боку неўралагічнага аддзялення.
Малітва – набажэнствы, магчымасць сустрэчы з каталіцкім святаром: сакрамантальная паслуга, размова.
Са святаром можна скантактавацца па тэлефоне:
+ 375 29 78 51 298

# “Дом Айца Майго” –

## кніга пра адзін з найпрыгажэйшых касцёлаў Віцебскай дыяцэзіі




**У Паставах выйшла з друку кніга “Дом Айца Майго”, якая расказвае пра касцёл Святога Антонія Падуанскага. Яе напісанне – вынік сумеснай працы вядомага на Віцебшчыне краязнаўцы Ігара Пракаповіча, парафіянак Аліны Латыш і Людмілы Сяменас.**



**Аліна Латыш, саўтар кнігі:**

– Праца наша доўжылася паўтара года, бо ахоплівае вялікі кавалак гісторыі: ад гарадзішча на востраве XIV – XV стагоддзя, якое даследаваў са сваімі навучэнцамі Ігар Пракаповіч, да сучаснага касцёла. Нас цікавіў не толькі сам будынак, хоць храм – адзін з найпрыгажэйшых у Беларусі. Цікавілі ў першую чаргу людзі – як святары, так і парафіяне. Людзі высакародныя, ахвярныя, глыбокія вернікі, што хочуць несці гэтую веру і вестку пра Уваскрасенне іншым людзям. Я цудоўна разумела, што адной мне з такой працай не справіцца, таму падзялілася думкамі і планамі з сябрамі па Таварыстве беларускай мовы імя Ф. Скарыны. Ігар Пракаповіч і Людміла Сяменас ідэю падтрымалі.

Акрамя гістарычнай часткі, у кнізе апавядаецца пра барацьбу за касцёл у 1987 – 1988 гадах (40 гадоў касцёл у Паставах быў зачынены, у ім зрабілі склад, потым там размяшчаўся завод “Беліт”), пра вяртанне касцёла вернікам (пастаўскі храм быў першым на тэрыторыі СССР, які аддалі парафіянам). Пра адбудову святыні і пра тых людзей, якія аддана працавалі, каб у храме зноў загучала малітва.

Яшчэ адзін з раздзелаў кнігі – інтэрв’ю святароў, якія працавалі і працуюць у касцёле, і ўспаміны пра тых, хто ўжо не мог расказаць пра сябе, але пакінуў глыбокі след у душах парафіянаў.

У кнізе таксама асвятляецца праца ў Паставах сясцёр ордэна Маці Божай Міласэрнасці, праца арганістак. Вельмі важная частка нашай кнігі – словы і сведчанні вернікаў сённяшняга дня. Многія з тых, хто адбудоўваў касцёл трыццаць гадоў назад, адышлі ў вечнасць. Цяпер маладзейшае пакаленне павінна перадаваць веру наступнікам. І вельмі радасна, што яны гэта робяць.

***Уступ да кнігі (Аліна Латыш):*** *“Думка пра неабходнасць такой кнігі выспявала даўно, з пачатку 2000-х гадоў. Слухала прачулыя словы пра здабыванне касцёла Мар’яна Бумбліса. Перабірала паперы з адказамі на іх “адмовіць у просьбе” ў Вацлава Станчыка. Адчуўшы набліжэнне смерці, ён сам прынёс іх пробашчу парафіі, разумеючы, што гэтыя дакументы належаць гісторыі. Разглядала шнары (накладзена некалькі швоў) на правай руцэ Станіслава Дунца: ён параніўся, разбіваючы тualетныя кабінкі, якія стаялі на месцы алтара. Ездзіла ў Глыбокае з Янінай Каравацкай, каб з вуснаў яе мамы пачуць сведчанне пра апошнія хвіліны жыцця ксяндза Баляслава Мацяёўскага (Марта Кантаржэўская разам з іншымі глыбачанкамі была сведкай расстрэлу святароў у лесе ў Барку).*

*У 2008 годзе мне пашчасціла рэдагаваць інтэрв’ю тых, хто ваяваў за касцёл і хто яго адбудоўваў. Мая вера і, думаю, вера тых юнакоў і дзяўчат, якія запісвалі словы людзей, вырасла ў шмат разоў.*

*Тыя ахвярныя, бясстрашныя людзі адыходзяць у вечнасць. А нам трэба не толькі не забыць пра здабыткі, пра плён іх працы, але яшчэ і перадаць наступнікам нашым. Тым, хто цяпер рыхтуецца да бежмавання, да Першай споведзі, хто яшчэ ляжыць у калысцы або прыйдзе ў нашу парафію праз 10 – 20 – 30 гадоў. Каб яны ўзрасталі духам, даведаўшыся пра такіх папярэднікаў. Каб шанавалі храм. Каб зберагалі і абараnялі веру. Каб памяталі”.*



**Пробашч парафіі ксёндз Вадзім Прасяной:**

– Увогуле гісторыя для чалавека – вельмі важная рэч. Ёсць гісторыя нашай дзяржавы, Беларусі, і гісторыя сваёй сям’і… Мы памятаем пра дзядоў, прадзедаў, якія былі да нас. Памятаць і шанаваць – гэта вельмі важна для чалавека.

Без гісторыі чалавек, можна сказаць, ніхто, бо ён тады траціць свае карані. Без гісторыі чалавек слабы. Калі ён не ведае гісторыі, то трапляе ў тыя самыя пасткі, наступае на тыя самыя граблі.

Самая першая і самая папулярная ва ўсім свеце кніга – Біблія – гэта таксама гісторыя, Гісторыя Збаўлення. Калі адна дзяржава хоча напасці, захапіць і падпарадкаваць сабе іншую дзяржаву, то стараецца найперш знішчыць гісторыю гэтай дзяржавы, каб не засталося каранёў, не засталося памяці. Нашмат лягчэй валадарыць народам, які не ведае сваёй гісторыі.

Гісторыя нашага касцёла вельмі важная не толькі для пастаўчан, але і для іншых беларусаў, для іншых народаў. Каб людзі ведалі, што не ўсё так было лёгка ў вяртанні і адбудове касцёла, у пашырэнні веры на нашай зямлі. Што былі, ёсць і будуць сапраўдныя парафіяне, якія неабыякава ставяцца да патрэбаў касцёла: як да самога касцельнага будынка, так і да касцельнай супольнасці. Яны не баяліся пераследу, не шкадавалі фінансаў на касцёл, клапаціліся пра тое, каб перадаць веру, выхаваць у Богу наступныя пакаленні.

Такія парафіяне ёсць і зараз. Пра іх гаворыць праца ў руху “Новае аблічча парафіі”: гэта адказныя за мікрараёны, пасланцы, аніматары сарака суседскіх груп, у якіх чытаецца і абмяркоўваецца Святое Пісанне.

# Рэдакцыя дзякуе!

**Дарагія сябры!**

Шчыра дзякуем усім, хто падтрымлівае “Каталіцкі Веснік” сваімі артыкуламі і ахвяраваннямі.

**Свае ахвяраванні нам даслалі: Марыя Юрык** *(Глыбокае)*, **Марыя і Уладзімір Тупека** *(Дзеркаўшчына)*, **Людміла Булаўка** *(Ашмяны)*, **Карневіч А.А.** *(Ніўнае)*, **Яніна Парфяновіч** *(Пялікі)*, **Вольга Мятла** *(Сталіца)*, **Валянціна Сурвіла** *(Шэметава)*, **Соф’я Машара** *(Шаркаўшчына)*, **Тэрэса Варановіч** *(Докшыцы)*, **Вільгельм Драгун** *(Варапаева)*, **Каспяровіч Г.Т.** *(Мураваная Ашмянка)*, **Ганна Сапель** *(Браслаў)*, **Галіна Данілава** *(Шуміліна)*, **Людміла Сушко** *(Докшыцы)*, **Эма Козел** *(Докшыцы)*, **Ванда Кірылава** *(Ёды)*, **Рэгіна Лазучэнка** *(Браслаў)*, **Даната Варанько** *(Друя)*, **Ганна Лук’янская** *(Пялікі)*, **Валянціна Мурзенак** *(Паставы)*, **Станіслава Жук** *(Мосар)*, **Даната Алейнік** *(Мосар)*, **Марына Катовіч** *(Зорка)*, **Зоф'я Скукоўская** *(Мосар)*, **Марыя Міронава** *(Мосар)*, **Марыя Мурзіч** *(Мосар)*, **Алена Ліпская** *(Мосар)*, **Вераніка Курыловіч** *(Мосар)*, **Уладзіслава Бохан** *(Мосар)*, **Ларыса Фёдарава** *(Глыбокае)*, **Аліна Бука** *(Мосар)*, **Рэгіна Бука** *(Радзюкі)*, **Зоф'я Ласоўская** *(Радзюкі)*, **Ірына Сіманенкава** *(Мосар)*, **Чэслава Яцына** *(Шаркаўшчына)*, **Яніна Скаўронская** *(Луцк Масарскі)*, **Караліна Лаўрыновіч** *(Мосар)*, **Станіслава Носка** *(Мосар)*, **Альжбета Калмук** *(Мосар)*, **Яна Кукліна** *(Баравуха)*, **Алена Балай** *(Мосар)*, **Вольга Парневіч** *(Крулеўшчына)*, **Ядвіга Жолнер** *(Муцеўшчына)*, **Міхаіл Дуброўскі** *(Нагаўкі)*, **Часлава Гулевіч** *(Маладзечна)*, **Ванда Дзенісенка** *(Жыткавічы)*, **Канстанцін Кузьміч** *(Варапаева)*, **Соф’я Мацкевіч** *(Ракуці)*, **Рэгіна Ціхая** *(Камарова)*, **Казіміра Сіндрэвіч** *(Віцебск)*, **Аліцыя Трафімовіч** *(Паставы)*, **Ганна Міхалевіч** *(Віцебск)*, **Галіна Валькевіч** *(Глыбокае)*, **Жанна Юрык** *(Глыбокае)*, **Марыя Кутукова** *(Мінск)*, **Марунько Н.Н** *(Новалукомль)*, **Эмілія Стакло** *(Юльянова)*, **Меранкова А.Ю.** *(Валкі)*, **Яніна Шэнда** *(Зорка)*, **Яніна Лубінская** *(Шэметава)*, **Эма Сцяпанава** *(Сталіца)*, **Ганна Швед** *(Людвінова)*, **Зінаіда Жук** *(Падсвілле)*, **Валянціна Хаданёнак** *(Сталіца)*, **Марына Катовіч** *(Зорка)*, **Галіна Галуза** *(Падсвілле)*, **Эмілія Бугаева** *(Лынтупы)*, **Ян Павучонак** *(Сынадворцы)*, **Вольга Завадская** *(Захарнічы)*, **Даната Рудак** *(Захарнічы)*, **Марына Пучынская** *(Шаркаўшчына)*, **Роўда З.Ц.** *(Новалукомль)*, **Ядвіга Мядзвецкая** *(Сталіца)*.

Калі Вы хочаце дапамагчы “Каталіцкаму Весніку” сваімі ахвяраваннямі, дасылайце, калі ласка, іх праз Белпошту на ніжэйпададзены адрас:

***Місевіч Віктар Мар’янавіч***
***вул. Савецкая, 1***
***211793 г. Глыбокае***
***Віцебскай вобл.***

Дзякуючы дапамозе нашых чытачоў мы можам друкаваць газету. За ўсіх аўтараў і ахвярадаўцаў выдання кожны месяц адпраўляецца св. Імша.

***Рэдакцыя “Каталіцкага Весніка”***



## Глыбачанка склала вечныя шлюбы ў супольнасці сясцёр францішканак

**27 чэрвеня чатыры сястры францішканкі Сям'і Марыі скалалі вечныя манаскія абяцанні. Па традыцыі манахіні з гэтай кангрэгацыі складаюць шлюбы чысціні, паслухмянасці і беднасці ў Базыліцы на Яснай Гары ў Чэнстахове (Польшча) у дзень літургічнага ўспаміну Маці Божай Нястомнай Дапамогі.**

Сярод тых, хто назаўсёды адказалі Пану Богу "так" на Яго заклік, была сястра Алена Шубелька, якая паходзіць з парафіі Святой Тройцы ў Глыбокім.

Святую Імшу ўзначаліў арцыбіскуп Вацлаў Дэпа, Мітрапаліт Чэнстахоўскі. На цырымоніі прысутнічалі сёстры з усіх трох правінцый кангрэгацыі: варшаўскай, кракаўскай і познанскай. Прыбыла генеральная настаяцельніца кангрэгацыі с. Яніна Керстан RM.

"Сённяшні дзень, прысвечаны Маці Божай Нястомнай Дапамогі, з'яўляецца значнай падзеяй у жыцці сясцёр францішканак Сям'і Марыі. Мы ўсе ведаем, што немагчыма аддаць сваё жыццё Хрысту толькі ў нейкай яго частцы, альбо толькі для спробы. Гледзячы на Марыю, якой Бог даў больш за іншых людзей з погляду на Божае мацярынства, давайце давяраць мудрасці выбару Бога, таму што калі Ён выбірае, то дае сілы і паказвае нам шлях місіі, які вядзе да мэты. Таму мы просім заступніцтва Марыі, каб вечныя абяцанні нашых сясцёр былі любоўю, якая вечна ўзрастае", – прамовіў арцыбіскуп Вацлаў Дэпа.

Масляныя лямпы, якія нясуць сёстры, з'яўляюцца выразам любові, каторую Бог узняў у іх сэрцах і каторую яны цяпер аддаюць Богу ў служэнні Касцёлу.

Сёстры францішканкі Сям'і Марыі ў хрысціянскім духу выхоўваюць і навучаюць дзяцей і моладзь, даглядаюць хворых і пажылых людзей, дапамагаюць духавенству ў душпастырскай і катэхетычнай працы, семінарыях і справах міласэрнасці.

*Паводле матэрыялаў jasnagora.com*
*Фота са старонкі кангрэгацыі ў facebook*

## Касцёл у Беларусі мае пяць новых святароў і аднаго дыякана

**27 чэрвеня ў Гродне і Мінску біскупы ўдзялілі сакрамант пасвячэння ў ступені прэзбітарату і дыяканату.**

У катэдральным касцёле Святога Францішка Ксаверыя ў Гродне біскуп Аляксандр Кашкевіч удзяліў святарскае пасвячэнне чатыром дыяканам, трое з якіх з'яўляюцца выпускнікамі Вышэйшай духоўнай семінарыі ў Гродне, а адзін – выпускніком Вышэйшай духоўнай семінарыі рэдэмптарыстаў у Тухаве (Польшча).

У мінскім катэдральным касцёле Найсвяцейшага Імя Марыі арцыбіскуп Тадэвуш Кандрусевіч удзяліў сакрамант пасвячэння ў ступені прэзбітарату і дыяканату двум выпускнікам Міждыяцэзіяльнай вышэйшай духоўнай семінарыі ў Пінску.

**Новапрэзбітарамі і дыяканам сталі:**

**Ксёндз Яўген Амасёнак**. Нарадзіўся 8 сакавіка 1987 г., паходзіць з парафіі св. Андрэя, апостала, у Слоніме.

**Ксёндз Андрэй Струкель**. Нарадзіўся 19 лістапада 1993 г., паходзіць з парафіі Узвышэння Святога Крыжа ў Лідзе.

**Ксёндз Томаш Мікалайчык**. Нарадзіўся 1 красавіка 1996 г., паходзіць з парафіі Узвышэння Святога Крыжа ў Лідзе.

**Айцец Максім Лабкоў CSsR**. Нарадзіўся 2 жніўня 1988 г., паходзіць з парафіі Маці Божай Нястомнай Дапамогі ў Парэччы (дэканат Гродна-Усход).

**Ксёндз Павел Сідарэнка**. Паходзіць з парафіі Беззаганнага Зачацця Найсвяцейшай Панны Марыі ў Бабруйску.

**Дыякан Юрый Рашатко**. Паходзіць з мінскай катэдральнай парафіі Найсвяцейшага Імя Марыі.

*Паводле матэрыялаў grodnensis.by і catholic.by*

# Новы доктар тэалогіі ў Віцебскай дыяцэзіі



Сястра Дар'я Галубкова OV 25 чэрвеня абараніла доктарскую дысертацыю па маральнай тэалогіі на тэму "Маральныя дылемы чалавека перад абліччам вайны ў творчасці Васіля Быкава (1924-2003)". Праз эпідэміялагічную абстаноўку ў свеце абарона дысертацыі адбылася анлайн з Віцебскай катэдры.

Сястра Дар'я прадставіла і абараніла сваю працу перад прафесарскай камісіяй Люблінскага каталіцкага ўніверсітэта імя Яна Паўла ІІ. Доктар Дар'я Галубкова OV адказала на некалькі пытанняў для "Каталіцкага Весніка".

**– Сястра Дар'я, чаму Вы выбралі менавіта такую тэму для сваёй дысертацыі?**

– Мне асабіста вельмі падабаецца творчасць нашага вялікага празаіка. У сваіх творах ён падымае складаныя тэмы кшталту вернасці чалавека свайму сумленню і няпростага маральнага выбару ў жахлівы перыяд вайны. Акрамя таго, Васіль Быкаў – мой зямляк, таму мне хацелася даследаваць яго творчасць з гледзішча каталіцкай тэалогіі.

**– Але ж ён не быў актыўным хрысціянінам, ды і гэта наўрад ці было магчыма ў часы савецкага атэістычнага рэжыму?**

– Гэта сапраўды так. Творы Быкава бязлітасна цэнзураваліся савецкімі цэнзарамі менавіта за тое, што Быкаў не пісаў для ідэалогіі, а задумваўся над прызначэннем чалавека і над яго сумленнем. Ужо тое, што яго твор "Мёртвым не баліць" ляжаў у шуфлядзе аж 17 гадоў, шмат пра што сведчыць. Тым не менш, у яго аповесцях мы знаходзім адсылку да Божых запаведзяў і Божага закону.

**– Што было самым складаным у напісанні працы?**

– Мне давялося перачытаць абсалютна ўсе яго творы. Прынамсі тое, што ёсць у доступе. Але не гэта было самым складаным. Знайсці час на навуку – вось гэта было выпрабаваннем. Але тое таго варта. Таму хацелася б падтрымаць маладых навукоўцаў, якія толькі пачынаюць свой шлях да абароны дысертацыі. Нельга баяцца і апускаць рукі. Варта ўкладаць у самога сябе праз адукацыю. А для нас, вернікаў, яшчэ і немалаважна, што Божая ласка, Дух Святы дапамагаюць.

**– Дык што ж усё-такі раіць Быкаў чалавеку, калі ён апынаецца ў няпростым жыццёвым становішчы?**

– Ведаеце, Уладзімір Караткевіч называў Васіля Быкава рыцарам сумлення і свабоды. Акрамя таго, яго яшчэ называюць сумленнем нацыі. І гэта не проста так. Быкаў шмат піша пра сумленне чалавека, пра тое, што трэба заўсёды заставацца чалавекам. Ён часта ўжывае слова "чалавечнасць". Я бачу ў гэтым адсылку да натуральнага права, якое ўпісана ў сэрцы кожнага: не рабі іншаму нічога такога, што табе самому не міла. Вось менавіта за такую ідэю Быкаў спазнаў сапраўдны пераслед з боку савецкай ідэалагічнай сістэмы.

**– Які ваш любімы твор Быкава?**

– Аповесць "Мёртвым не баліць". Справа ў тым, што гэта аўтабіяграфічны твор пісьменніка. У вобразе галоўнага героя прасочваецца яго жыццёвы шлях. Акрамя таго, Быкаў як пісьменнік вельмі смелы. У творы ён паказвае, што не ўсё так адназначна. І ворагі могуць быць сярод сваіх. Галоўны адмоўны герой у аповесці – гэта супрацоўнік спецслужбаў.

**– Якія ў Вас далейшыя планы? Будзеце дзе-небудзь выкладаць?**

– Па шчырасці кажучы, мне б гэтага вельмі хацелася. Хочацца падзяліцца здабытымі ведамі з іншымі. Асабліва я вельмі ўдзячная маім выкладчыкам з Універсітэта ў Любліне. Яны вельмі дапамаглі мне ў падрыхтоўцы да абароны, уклалі ў мяне свае намаганні і веды. Таму цяпер я абавязаная не хаваць гэта ў шафу, а дзяліцца гэтым.

*Гутарыў*
***кс. Віктар Місевіч***

**Даведка:**
Сястра Дар'я Галубкова OV нарадзілася 08.01.1988г. у Віцебску. Скончыла гуманітарную гімназію №2 і Школу мастацтваў №2 г. Віцебска. У 2005-2010 гг. навучалася ў Люблінскім каталіцкім універсітэце імя Яна Паўла ІІ. Пасля заканчэння атрымала ступень магістра тэалогіі. У гэтым жа ўніверсітэце навучалася ў дактарантуры ў 2014-2018 гг. У цяперашні час з'яўляецца супрацоўніцай "Карытас" Віцебскай дыяцэзіі, а таксама працуе катэхеткай і арганісткай у парафіі Святога Уладзіслава ў Віцебску.
У Віцебскай дыяцэзіі дактарамі тэалагічных навук з'яўляюцца кс. доктар Сяргей Сурыновіч (працуе ў Друі), кс. доктар Мікалай Ціхановіч (працуе ў Глыбокім), кс. доктар Валерый Марціноўскі (працуе ў Паставах). З Відзаў паходзіць доктар філасофскіх навук с. Тэрэза Абалевіч, якая працуе ў Польшчы. Дарэчы, інтэрв'ю з с. Тэрэзай Абалевіч можна прачытаць у "Каталіцкім Весніку" № 8(53) за 2015 год.



## Віншуем!

*Паважанага **ксяндза Вячаслава Адамовіча** віншуем з Днём нараджэння!*

*Дасылаем самыя прыгожыя пажаданні: моцнага здароўя на ўсё жыццё, нязгаснага запалу ў паслузе на карысць Богу і людзям, штодзённай радасці, душэўнага супакою і аптымізму!*

*Шчыра дзякуем за ўдзяленне Божага благаслаўлення нашым сем'ям у час душпастырскіх візітаў!*

*Няхай Езус Хрыстус зберажэ ад няшчасцяў, благаславіць Вас і блізкіх Вам людзей!*

***З вялікай павагай і ўдзячнасцю, парафіяне з вёсак Лявонпаль, Дэмскія, Паташня (Мёрскі раён)***

## Віншуем!

*Паважанаму **ксяндзу Вячаславу Адамовічу** з нагоды Дня нараджэння (10 жніўня) ад усёй нашай парафіяльнай супольнасці жадаем моцнага здароўя, цярплівасці ў пастырскай паслузе, апекі Маці Божай і святога заступніка, дароў Святога Духа, патрэбных ласкаў ад Усемагутнага! Няхай Бог адорвае Вас сваёй любоўю і благаслаўленнем, людская дабрыня і зычлівасць хай заўсёды спадарожнічаюць, а кожны дзень паслугі прыносіць шчодры плён!*

*Мы ўдзячныя Вам за служэнне ў нашай парафіі, за павучальныя казанні, за дабрыню, зычлівую ўсмешку і гумар!*

*Дзякуем Вашым бацькам за сына-святара і зычым ім здароўя, Божага благаславення і ўсіх патрэбных ласкаў!*

***Касцельны камітэт і вернікі з парафіі Маці Божай Фаціమскай у Павяцці***



## Хвала Хрысту!

*Паважаны **ксёндз Яўген Міхайлаў**! З нагоды дня нараджэння (22 ліпеня) і гадавіны святарскага пасвячэння (25 ліпеня) сардэчна віншуем Вас і выказваем падзяку за служэнне ў нашай парафіі, за імкненне наблізіць нас да Пана Бога, за тое, што праз Божае слова, праз малітву і ўласны прыклад умацоўваеце нас у веры, кранаеце нашыя душы, робячы іх чыстымі, добрымі і міласэрнымі!*

*Няхай кожны дзень Вашага святарскага жыцця надае сілы і моцы для служэння людзям і Каталіцкаму Касцёлу! Поспехаў Вам і цярпення на Вашым нялёгкім шляху, шчодрых дароў Духа Святога, Божага благаслаўлення, апекі Маці Божай, моцнага здароўя, радасці і супакою!*

*Штодня дарогаю святой*
*Вы ведзяце нас за сабой.*
*І дорыце святу прыгажосць,*
*Дык дзякуй Богу, што Вы ёсць!*

***Вернікі капліцы Божай Міласэрнасці аг. Навасёлкі (Лучайская парафія)***

## Хвала Хрысту!

*З Днём нараджэння (22 ліпеня) і гадавінай святарскага пасвячэння (25 ліпеня) шчыра віншуем пробашча лучайскага касцёла **ксяндза Яўгена Міхайлава**!*

*Паважаны ксёндз Яўген! Ад усяго сэрца жадаем Вам плёну ў працы на Божай ніве, натхнення, моцы духа, спаўнення задум і планаў, вытрымкі ў цяперашні складаны час! Хай праменіцца Божым святлом Ваш далейшы святарскі шлях! Святлом, якім Вы шчодра дзеліцеся з намі падчас кожнай святой Імшы, казанняў, у канфесіянале. Зычым моцнага здароўя, штодзённай радасці, нястомнай апекі Божай Маці!*

***З удзячнасцю і малітвай за Вас, вернікі касцёла св. Юды Тадэвуша ў Лучаі***



## Пахвалёны Езус Хрыстус!



*Ад шчырага сэрца віншуем **ксяндза Аляксандра Півавара** з нагоды Дня народзінаў 7 ліпеня! Разам з віншаваннямі выказваем вялікую пашану і падзяку за нялёгкую працу і служэнне ў парафіі Св. Апосталаў Пятра і Паўла ў Бешанковічах.*

*Жадаем яму апекі Маці Божай, Божага благаслаўлення ў святарскім жыцці, плёну ў працы на карысць нашага Святога Касцёла, моцнага здароўя і сілы духу!*

*Спадзяёмся на выкананне ўсіх яго планаў і задумаў для духоўнага ўзрастання нашай парафіі!*

***Вернікі з парафіі Св. Апосталаў Пятра і Паўла (Бешанковічы)***

## Пахвалёны Езус Хрыстус!

*Шаноўны **ксёндз Аляксандр Півавар**! Сардэчна віншуем Вас з Днём нараджэння, які Вы адзначылі 7 ліпеня.*

*Жадаем Вам моцнага здароўя на доўгія гады, шчодрых Божых ласкаў і ўсіх дароў Духа Святога! Няхай кожны Ваш дзень будзе напоўнены цеплынёй, радасцю, дабрынёй, любоўю і надзеяй! Поспехаў у Вашай душпастырскай працы, здзяйснення запланаванага з дапамогай Бога і добрых людзей! Няхай Усемагутны Бог і Анёл-ахоўнік заўсёды берагуць і падтрымліваюць Вас!*

*Мы молімся за Вас! Шчасці, Божа, бацькам за сыноў-святароў!*

***Данута Голубева, ад імя ўсіх парафіян касцёла Святога Айца Піа ў Лёзне***

## Пахвалёны Езус Хрыстус!

*7 ліпеня адзначае свой Дзень нараджэння **ксёндз Аляксандр Півавар**!*

*Шаноўны ксёндз Аляксандр! Шчыра віншуем Вас з гэтай нагоды! Жадаем моцнага здароўя, бадзёрасці і аптымізму, бязмежнай міласэрнасці і плёну ў працы на доўгія гады святарскага служэння! Шмат Божых ласкаў Вам, каб кожны дзень быў напоўнены шчасцем і радасцю! Хай добры і міласэрны Бог благаслаўляе на новыя справы і няспынна аберагае ў штодзённым служэнні Богу і людзям! Дзякуем за Вашае добрае, чулае сэрца, клопат пра нас і парафію, за шчырую малітву.*

***Вернікі капліцы Маці Божай Будслаўскай, аг. Кардон Шумілінскага раена***



## Хвала Хрысту!

*Шчыра віншуем з Днём нараджэння (28 ліпеня) нашага паважанага **ксяндза-пробашча Андрэя Бульчака**! Жадаем Божай ласкі і дапамогі на духоўнай ніве, а таксама ў пабудове нашай святыні – касцёла Езуса Міласэрнага ў Паставах.*

*Ад усяго сэрца дзякуем нашаму святару за шчырасць і адданасць веры, за дабрыню і разуменне парафіянаў! Заставайцеся заўсёды з намі!*

*Таксама віншуем з імянінамі галоўнага рэдактара "Каталіцкага Весніка" шаноўнага **ксяндза Віктара Місевіча**!*

*Дзякуем за цудоўныя матэрыялы, што дапамагаюць чытачам газеты ўзрастаць духоўна. Жадаем апекі Маці Божай, здароўя і плёну ў працы!*

***З пашанай і ўдзячнасцю, вернікі парафіі Езуса Міласэрнага ў Паставах***

## Благодарность

Искренне выражаем сердечную благодарность **ксендзу Роману Мурзичу** из прихода в д. Парафьяново за постоянную заботу, внимание и поддержку нашего любимого отца Станислава, за духовное сопровождение в последние годы жизни, подготовку его души к вечности и отпевание в день похорон.

Также слова благодарности направляем **сестре Бернадете Клим**.

Дай Бог Вам доброго здоровья и низкий вам поклон!

***Семья Казимерского***

## Пахвалёны Езус Хрыстус!



*5 жніўня гадавіну святарскага пасвячэння адзначае наш дарагі і любы **ксёндз Юрый Жаўняровіч**!*

*Шлях святара цяжкі і цярністы... Няхай Бог адорыць Вас, дарагі Ойча, здароўем, пастырскай мудрасцю, дасць Вам мужнасці, цярплівасці і пакоры! Божай дапамогі і благаслаўлення ва ўсіх Вашых нялёгкіх справах і пачынаннях! Жадаем Вам радасці ад кожнага пражытага дня, патрэбных дароў Духа Святога і апекі Маці Божай! Вялікі дзякуй за Вашае добрае і шчырае сэрца!*

***Удзячныя вернікі парафіі Маці Божай Анёльскай, в.Замошша***

## Хвала Хрысту!

*1 ліпеня адзначыў свой дзень нараджэння наш **ксёндз Міхаіл Татарэнка**. Уся Лужкаўская парафія віншуе свайго паважанага пробашча, молячыся за яго да Пана Бога, выпрошваючы патрэбныя ласкі Святога Духа.*

*Жадаем здароўя і плёну ў працы,*
*Сілы на Ніве Хрыстовай змагацца!*
*Верных сяброў, справядлівага лёсу,*
*Вернікаў шчырых, памкненняў узнёслых!*
*Будзем аб гэтым заўжды прасіць Пана*
*І апекуна Арханёла Міхала!*

*Каб і далей Вашае святарскае жыццё квітнела, а ніва Хрыста прыносіла багаты плён! Нізка кланяемся Пану Богу, што Ён звёў нас разам!*

***З удзячнасцю да Вас, усе вернікі з Лужкоў***

## Віншуем!

*Паважаны **ксёндз Мікалай Ліпскі**! Віншуем Вас з Днём нараджэння, які Вы адзначаеце 3 жніўня! Жадаем Вам здароўя, шчасця, радасці, спаўнення мар, доўгіх гадоў жыцця!*

***З павагай, вернікі касцёла Св.Марыі Магдалены з г. Новалукомля***

## Пахвалёны Езус Хрыстус!

*Газету **"Каталіцкі Веснік"** я выпісваю больш за сем гадоў. Гэта мая самая любімая газета, тут змешчаны ўсе навіны свету, якія нас хвалююць, тут шмат пазнавальнага. З захапленнем чытаю і радуюся за тых, хто навярнуўся да веры ў Бога. Мы вельмі ўдзячныя святарам, якія вучаць нас жыць з Богам, пазнаваць пра вечнае жыццё ў небе, якія так шчыра і змястоўна пішуць пра духоўнасць. Разважанні над Божым словам, якія падрыхтаваў галоўны рэдактар **ксёндз Віктар Місевіч**, раю ўсім чытаць, бо самае галоўнае ў жыцці – вера ў Бога, якая нясе святло і дабро людзям.*

*Няхай міласэрны Бог узнагародзіць за ўсё добрае, што Вы робіце на Божай ніве! Поспехаў у Вашай святарскай працы для служэння Хрысту і Святому Духу!*

*Нізкі паклон ад нашых парафіян з Мядзельскай парафіі Маці Божай Шкаплернай для ўсіх святароў і духоўных асоб, якія ў ліпені будуць адзначаць дні нараджэння, імяніны і гадавіны святарскіх пасвячэнняў. Дзякуючы газеце "Каталіцкі Веснік" мы будзем памятаць пра іх у сваіх малітвах.*

*Шаноўны ксёндз Віктар Місевіч! Шчыра віншую Вас з імянінамі (28 ліпеня), жадаю поспехаў у Вашай святарскай працы, Божага благаславення і ўсіх патрэбных ласкаў! Няхай Маці Божая апякуецца Вамі і Вашымі роднымі і блізкімі!*

***З павагай і ўдзячнасцю ад вернікаў Мядзельскай парафіі Маці Божай Шкаплернай, Ядвіга Жолнер***

# Разважаем над Божым словам

**Разважанні, якія мы вам сёння прапануем, пажадана чытаць, маючы перад вачыма тэкст са Святога Пісання, вызначаны на кожную нядзелю.**

**2 жніўня 2020г. Мц 14, 13-21**

Урывак з Евангелля распавядае нам пра размнажэнне ежы для галоднага натоўпу. Гэта адбылося ў раёне Галілейскага мора. Езус з вучнямі часта на ім бываў. Прычына гэтага была вельмі простай: дасягнуць мэты свайго падарожжа на іншым беразе можна было хутчэй, выкарыстаўшы рыбацкую лодку, чым ідучы ўздоўж берага. З прачытанага Евангелля мы даведваемся, што натоўп людзей спяшаўся на другі бераг, каб сустрэць там Хрыста. Пакуль адбываліся гэтыя падзеі, ужо звечарэла. Езус зжаліўся над галоднымі людзьмі і размножыў ежу, каб іх накарміць.

Размнажэнне ежы – гэта цуд, які і раней мы сустракаем у Біблії на старонках Старога Запавету. Напрыклад, дар нябеснай манны, дзякуючы якому ізраэльскі народ выжыў у пустыні. Цуд, які ўчыніў прарок Ілля, калі зрабіў так, што ежа не заканчвалася ў доме ўдавы ў Сарэпце Сідонскай. Вучань Іллі прарок Елісей размножыў дваццаць хлябоў для сотні чалавек. Аднак размнажэнне Езусам хлеба для галодных людзей адсылае нас не толькі да Старога Запавету, але і да Сакраманту Эўхарыстыі.

Ёсць агульныя рысы ў апісанні размнажэння ежы ля Галілейскага мора і Апошняй Вячэры. Па-першае, абедзьве гэтыя падзеі адбыліся вечарам, па-другое, Езус у гэтых падзеях паводзіць сябе як гаспадар дому: запрашае прысутных утульна ўладкавацца і блаславіць ежу. Па-трэцяе, Ён раздае яе Сваім вучням. Эўхарыстыя паходзіць ад Хрыста і праз Яго вучняў удзяляецца ўсім іншым людзям. Бачная шчодрасць Бога, Які не скупіцца на свае дары. Засталося дванаццаць кашоў ежы, хоць натоўп складаў пяць тысяч чалавек, не лічачы жанчын і дзяцей. Размнажэнне ежы ля Галілейскага мора апярэджвае ўстанаўленне Сакраманту Эўхарыстыі падчас Апошняй Вячэры і ўказвае на яго.



Галілейскае мора

**9 жніўня 2020г. Мц 14, 22-33**

Евангелле распавядае нам, як Езус пасля няпростага дня сустрэч з людзьмі адсылае Сваіх вучняў праз мора на другі бераг. А Сам застаецца адзін, ідзе на гару, каб памаліцца. Наш Збаўца паказвае нам, наколькі патрэбная размова з Богам. Як важна знайсці час на сустрэчу з Ім сам-насам.

Падарожжа праз мора не было лёгкім для вучняў. Падняўся вецер, моцныя хвалі не давалі магчымасці хутка плысці. Іх падарожжа зацягнулася аж да чацвёртай варты ночы, што па сучаснаму гадзінніку азначае час паміж трыма і шасцю гадзінамі ночы. Стомленыя ад змагання са стыхіяй, вучні перапалохаліся, калі ўбачылі Езуса, Які ішоў да іх па вадзе. Пётр выказаў жаданне пайсці насустрач Настаўніку. І гэта яму ўдалося, але толькі да моманту, пакуль яго сэрцам не завалодаў страх. Пакуль Пётр ішоў да Хрыста, ён глядзеў на Яго. Калі ж адвёў вочы, то застаўся сам-насам з шалёным ветрам і чорнай безданню пад ім. Аднак Евангелле нам падказвае, што нават калі мы адводзім вочы ад Бога, нават калі жыццёвыя буры цягнуць нас на дно, усё роўна ёсць выйсце. Езус знаходзіцца побач. Трэба толькі ўсклікнуць: "Пане, ратуй мяне!" Збаўца падасць руку, уратуе і падтрымае.

**16 жніўня 2020г. Мц 15, 21-28**

Езус увайшоў у ваколіцы Тыра і Сідона. Гэта гарады на беразе Міжземнага мора, дзе пражывалі пераважна людзі паганскага паходжання. Слава пра Езуса, пра Яго цуды і аздараўленні ішла наперадзе, перад ім. Не дзіўна: жанчына з Ханаана ўяўляла, што Езус – гэта Той, Хто мае моц вызваліць ад любой бяды. Аднак на яе шматлікія просьбы Езус ніяк не рэагаваў. Нават вучням надакучыла слухаць крыкі гэтай жанчыны.

Што кранае ў гэтай гісторыі? Напэўна, вера гэтай жанчыны. Яна не пытаецца ў Хрыста, ці можа Ён ёй дапамагчы. Яна адразу звяртаецца з просьбай, таму што пераканаая ва ўсемагутнасці Збаўцы. Жанчына тройчы звяртаецца да Езуса, называючы Яго Госпадам. Калі Езус маўчыць, калі прыводзіць ёй свой контраргумент, што Ён пасланы толькі да людзей Ізраэля, нават калі Ён параўноўвае сітуацыю з людзьмі і шчанятамі, жанчына не абражаецца. Гэта сведчыць пра яе пакору. Урывак з Евангелля нагадвае нам, што важныя тры крытэрыі малітвы-просьбы. Гэта вера, пакора і настойлівасць.



**23 жніўня 2020г. Мц 16, 13-20**

Езус з вучнямі ад возера Генезарэт прыйшоў у межы Цэзарэі Філіпавай. Адлегласць гэтага маршрута – прыкладна 30 км. Апісаны ва ўрыўку дыялог вельмі важны для нас. Езус спачатку цікавіцца, кім Яго лічаць людзі, а потым задае такое ж пытанне Сваім вучням наўпрост. Пётр адказвае, што Езус – гэта Месія і Сын Бога жывога. Хто такі Месія? Той, хто намашчаны святым алеем, даслоўна: Памазаннік. Памазанне алеем у Ізраэлі ўжывалася адносна каралёў і святароў. Езус – Месія, таму што Ён Найвышэйшы Валадар і Найвышэйшы Святар. Пётр сваім адказам на пытанне Хрыста вызнае ў Яго веру, як у Божага Сына. Езус падкрэслівае, што гэта сталася магчымым, таму што не людзі Яму пра гэта распавялі, а адкрыў Айцец Нябесны. Унікальнасць і асаблівае абранніцтва Пятра бачнае і ў далейшым дыялогу, калі Езус дае яму новае імя: Кэфас альбо Пэтрус, што азначае "скала". На гэтай скале Езус збудуе Свой Касцёл, які ніколі не будзе знішчаны, таму што стаіць на трывалым падмурку. Пётр нашых часоў – гэта Святы Айцец Папа Рымскі Францішак, які мае ўладу ключоў, запаведаную Хрыстом. Каталіцкі Касцёл немагчымы без Пятра. Усе біскупы з'яўляюцца наступнікамі апосталаў. Але толькі Пятру належыць абсалютная і поўная ўлада ў Касцёле.




**Герб Папы Францішка. Папскія гербы заўсёды маюць у сабе выяву ключоў.**

**30 жніўня 2020г. Мц 16, 21-27**

Мы бачым, як Пётр не жадае пагадзіцца са словамі Хрыста. Той самы Пётр, чыя вера з'яўляецца падмуркам для Касцёла. Чаму так адбываецца? Напэўна, таму, што Пётр глядзіць і мерае праз людскую перспектыву. Ён уяўляе сабе Божае Валадарства па-іншаму – як зямное панаванне. У той час як Езус спрабуе ўсім растлумачыць, што збаўленне, якое Ён прыносіць, мае вечны і звышнатуральны характар. Езус у беларускім варыянце тэксту называе Пятра "спакусай". Грэцкі тэкст ужывае слова "перашкода", літаральна: камень, аб які спатыкаюцца. Яшчэ хвіліну назад, калі Пётр вызнаў веру ў Хрыста, Збаўца назваў яго Скалой, на якой будзе збудаваны Касцёл. Калі ж Пётр пачынае думаць па-свойму і не хоча пагадзіцца з Божай воляй, ён становіцца каменем, аб які спатыкаюцца. Калі хтосьці жадае быць вучнем Хрыста, то павінен прыняць на сваім жыццёвым шляху выпрабаванні і цярпенні. Дарога да неба не бывае лёгкай. Прыкладам трываласці на абраным шляху будзе той самы апостал Пётр. Так, мы цудоўна ведаем, што ён, паддаўшыся страху, адрачэцца ад Хрыста. Але гэты Пётр пераажыве шчырае навяртанне і ў рэшце рэшт прыме пакутніцкую смерць у Рыме.

*Разважанні падрыхтаваў*
***кс. Віктар Місевіч***
*Віцебск*

## Памёр найстарэйшы каталіцкі святар у Беларусі




**26 чэрвеня 2020 адышоў у вечнае жыццё кс. прэлат Юзаф Трубовіч, святар Гродзенскай дыяцэзіі.**

Ксёндз прэлат Юзаф Трубовіч нарадзіўся на Віцебшчыне ў вёсцы Невярышкі 6 студзеня 1926 г. Скончыў Вышэйшую духоўную семінарыю ў Рызе (Латвія), там жа атрымаў прэзбітэрскае пасвячэнне з рук біскупа Казіміра Дульбінькскага 30 верасня 1956 г. Пасля пасвячэння 20 гадоў працаваў у Латвіі. Затым прыехаў у Гродна і на працягу 12 гадоў працаваў у францішканскім касцёле.

У 1988–1992 гг. быў прэфектам Вышэйшай духоўнай семінарыі ў Рызе. Затым 7 гадоў быў пробашчам катэдральнай парафіі Св. Францішка Ксаверыя ў Гродне.

З 1999 г. з'яўляўся рэзідэнтам у парафіі Беззаганнага Зачацця Найсвяцейшай Панны Марыі ў Гродне.

Пахаванне адбылося 30 чэрвеня 2020 года на прыкасцельным цвінтары парафіі Беззаганнага Зачацця Найсвяцейшай Панны Марыі ў Гродне.

**Вечны адпачынак дай яму, Пане, а святло вечнае няхай яму свеціць.**

*Паводле grodnensis.by*

# Проблемы врачебной этики в современном мире

**Ежегодная XVI Международная медицинская конференция "Проблемы врачебной этики в современном мире" прошла в Витебске 26 июня 2020 года.**

**Конференция проводилась по инициативе Витебской Епархии Римско-Католического костёла в Республике Беларусь и Витебского облисполкома при участии Витебского государственного медицинского университета, Витебского государственного университета им. П.М. Машерова и Витебской государственной академии ветеринарной медицины. Куратором конференции являлся священник Общества Иисуса Клементий Верт.**

■ **Врач УЗ "ВОКБ" Людмила Ермолова**, *текст*;
**Алексей Гапанович**, *фото*




Настоящая конференция была посвящена проблеме паллиативных состояний.

В работе конференции приняли участие:

● ординарий Витебской епархии Римско-Католической церкви в Республике Беларусь **епископ Олег Буткевич**;

● заместитель министра здравоохранения Республики Беларусь **Елена Богдан**;

● заместитель начальника главного управления по здравоохранению Витебского облисполкома **Николай Касперович**;

● главный внештатный специалист по паллиативной медицинской помощи Министерства здравоохранения Республики Беларусь, главный врач ГУ "Больница паллиативного ухода "Хоспис" **Наталья Наркевич**;

● специалист главного управления организации медицинской помощи, экспертизы, обращений граждан и юридических лиц Министерства здравоохранения Республики Беларусь **Татьяна Ясюля**;

● заведующая кафедрой общественного здоровья и здравоохранения БелМАПО, кандидат медицинских наук, доцент **Марина Щавелева** вместе с коллективом сотрудников кафедры;

● заместитель председателя Комитета по биоэтике Республики Беларусь, кандидат философских наук, доцент кафедры общественного здоровья и здравоохранения БелМАПО **Валерия Сокольчик;**

● главный специалист главного управления идеологической работы и по делам молодёжи Витебского облисполкома **Сергей Фаденков**;

● председатель Витебской областной организации Белорусского Красного Креста **Галина Желанова**;

● **Александр Окороков**, профессор кафедры терапии ФПК и ПК №2 Витебского медуниверситета;

● Доцент кафедры общественного здоровья и здравоохранения Бел МАПО **Татьяна Матвейчик**.

Среди участников конференции также были представители Польши, Украины, Шри-Ланки, России.

Впервые с учетом эпидемической ситуации в мире конференция прошла онлайн. Также осуществлялась видеотрансляция на все районы Витебской области.

Открыл конференцию заместитель начальника главного управления по здравоохранению Витебского облисполкома Николай Касперович. Он рассказав об этапах эволюции конференции за 16 лет её существования и представил участников онлайн.

С приветственным словом к собравшимся в студиях обратилась заместитель министра здравоохранения Елена Богдан. Она поблагодарила медиков Витебщины за профессионализм, милосердие и терпение, проявленные во время пандемии. Также высоко оценила сотрудничество медицины и духовенства Витебской епархии Римско-Католической Церкви, в частности перевод "Новой хартии работников здравоохранения", духовную опеку больных в хосписах и больницах.

Благословил работу конференции ординарий Витебской епархии епископ Олег Буткевич. Его Преосвященство зачитал "Послание кардинала Питера Тарксона" – префекта дикастерии по интегральному развитию человека (Ватикан): "Я высоко ценю возможность передать вам приветствие и благословить работу 16-й Международной конференции. На протяжении многих лет представители Ватикана принимали участие в этом событии, однако нынешняя ситуация и проблемы, связанные с передвижением, сделали наше участие в конференции в этом году невозможным.

Я хотел бы выразить свою благодарность всем работникам здравоохранения Беларуси и Витебской области, которые задействованы на передовой линии борьбы с Ковид-19. Знаю, что слова Папы Франциска, обращенные к итальянским медицинским работникам, безусловно, относятся и к вам. Как в Италии, так и в Беларуси больные в трудные времена находят в вас поддержку, как в членах своей семьи, так как вы объединяете профессиональную компетентность с тем вниманием, которое включает в себя конкретные выражения любви. "Пациенты, – говорит Папа – чувствуют, как будто рядом с ними находятся "ангелы", помогающие им поправиться, в то же время, утешая и поддерживая их, а иногда сопровождая их до порога встречи с Господом".

На самом деле, работники здравоохранения могут возродить надежду в трудные моменты жизни, когда они оказывают помощь, своим внимательным и заботливым присутствием вызывают доверие и надежду, поддерживая больных людей и членов их семей. Часто присутствие, исполненное веры и надежды, является тем вкладом, который вносят работники здравоохранения и пастырские работники в общение с пациентами, особенно неизлечимо больными, и их семьями, чтобы примирение смогло заменить отрицание и надежда возобладала над страданием (новая хартия для работников здравоохранения)".

На конференции прошла презентация "Новой хартии работников здравоохранения" папского совета по пастырскому попечению о работниках здравоохранения, перевод которой на государственные языки Республики Беларусь и издание тиража по-белорусски и по-русски был осуществлён под патронатом отца Клементия Верта SJ. "Новая хартия работников здравоохранения" рассматривает постоянно возникающие вопросы медицинско-правового характера, которые оказывают влияние на профессиональную деятельность работников здравоохранения. Часть тиража была передана Витебской епархией Римско-Католической церкви в Республике Беларусь в библиотеку БелМАПО для ознакомления широкой медицинской общественности с этим важным документом. На конференции "Новую хартию..." презентовал ксёндз-канцлер Виктор Мисевич.

С докладом "Паллиативная медицинская помощь как выражение гуманных целей биоэтики" онлайн обратилась Наталья Наркевич – главный внештатный специалист по паллиативной медпомощи Министерства здравоохранения Республике Беларусь.

В частности, в докладе прозвучало: "...Паллиативная помощь подразумевает особую философию лечения, в центре которой не болезнь, а человек". В настоящее время в 33 организациях здравоохранения осуществляется оказание паллиативной медицинской помощи, из них в 23 учреждениях развёрнуты 463 круглосуточные стационарные койки и 18 коек дневного пребывания, 15 кабинетов паллиативной помощи, 10 выездных патронажных служб и хосписы, имеющие статус юридического лица – в Минске и в Бресте.

Доклад "Моральные проблемы в паллиативной помощи" отца Петра Ашика SJ, профессора из Варшавы, был представлен кс. Алексеем Лешко.

Главный врач УЗ "Витебский областной детский клинический центр" Галина Пузанова в своём выступлении остановилась на организации паллиативной помощи детям Витебской области. Профессор Александр Окороков (УО "Витебский государственный медицинский университет") акцентировал внимание участников конференции на роли искусства в паллиативной медицине, завершив свой доклад стихами И. Северянина "Поэма сострадания":

И обнадёжив безнадежность,
Всё возлюбя и всё простив,
Такую проявите нежность,
Чтоб умирающий стал жив!

Сообщение доцента кафедры общественного здоровья и здравоохранения БелМАПО Татьяны Матвейчик было посвящено теме "Сопереживание, доброта и участие в работе медсестёр".

Итоги конференции подвёл епископ Олег Буткевич.

По материалам конференции издан сборник тезисов докладов.



Пазнаём Хрыста і Яго Касцёл!

# ПАЗНАВАЙКА

А ты ведаеш, хто быў самым моцным чалавекам на зямлі? У гэтым нумары разам з намі даведаешся пра Самсона, суддзю, які не меў войска, але быў вельмі мужны і сваёю сілаю служыў Богу.

Каб лепш пазнаёміцца з Самсонам і добра выканаць наступныя заданні, прачытай гісторыю Самсона ў кнізе Суддзяў 13,24 – 16.

**1.** Ці ведаеш ты ў чым быў сакрэт моцы Самсона? Разгадай рэбус і атрымаеш адказ.



АДКАЗ: ____________

**2.** Самсон быў мужны і моцны чалавек, і аднойчы ён голымі рукамі перамог ільва. Паглядзі, як гэта адбывалася. Знайдзі 7 адрозненняў на малюнках.





**3.** Жонка Самсона хітрасцю выведала сакрэт яго моцы. Самсону абстрыглі валасы і ён страціў сваю сілу. Філістымляне ж схапілі яго. Але з цягам часу валасы адраслі і моц Самсона вярнулася да яго. Злучы па кропках і паглядзі, што ён зрабіў са сваімі крыўдзіцелямі.



**4.** Самсон ад самага свайго нараджэння быў выбраны Богам, каб служыць Яму. Як думаеш чаму нас вучыць гісторыя Самсона?

Падумай і запішы ўнізе як ты можаш служыць Госпаду, якія свае таленты хочаш аддаць Яму.

______________________________
______________________________
______________________________
______________________________
______________________________
______________________________



**5.** Выпішы па парадку ўсе літары з кветак белага колеру і прачытай, як Святое Пісанне падказвае нам служыць адно аднаму.
1 Пётр 4, 10

*Адказ:* ____________



## Арцыбіскуп Тадэвуш Кандрусевіч:

# “Калі не мы, то хто? Калі не сёння, то калі?”

## У Будславе, нягледзячы на пандэмію, прайшлі чарговыя ўрачыстасці

**Сёлетні фэст адрозніваўся ад усіх папярэдніх тым, што праходзіў падчас пандэміі, таму ён не быў такім шматлюдным. Тым не менш, каб аддаць пашану Божай Маці і памаліцца ў Яе санктуарыі, у Будслаў сабралася больш за тысячу вернікаў.**

■ **Зміцер Лупач**, *тэкст;* **Леанід Юрык**, *фота*

Урачыстасці распачаліся ўвечары 1 ліпеня святой Імшой а 18-й гадзіне, якую ўзначаліў дапаможны біскуп Мінска-Магілёўскай дыяцэзіі Аляксандр Яшэўскі SDB. На набажэнстве, якое прайшло пры палявым алтары, прысутнічала больш за тры сотні вернікаў.

Ранішнюю св. Імшу а 9-й гадзіне цэлебраваў біскуп Віцебскі Алег Буткевіч, а галоўную Імшу – а 12-й гадзіне – Мітрапаліт Мінска-Магілёўскі арцыбіскуп Тадэвуш Кандрусевіч. На гэтай святой Імшы прысутнічала больш за тысячу вернікаў.

Хоць у гэтым годзе ў Будслаў не было арганізаваных пілігрымак, Касцёл не забараняў вернікам праводзіць індывідуальныя. Таму былі пілігрымы, якія самастойна прыйшлі ў Будслаў пешшу або прыехалі на роварах ці матацыклах. Сярод такіх вернікаў быў і жыхар Глыбокага Генадзь Бервячонак, каторы прайшоў больш за 230 км з Расіцы ў Будслаў за 8 дзён.

Ён кажа, што ўсе гэтыя дні былі напоўнены малітвамі за Беларусь. “Я ішоў з адной галоўнай інтэнцыяй: навучыцца давяраць Богу”, – кажа спадар Генадзь.

А пробашч Чырвонага касцёла з Мінска кс. Уладзіслаў Завальнюк да Будслава прыехаў на монаколе. Яго шлях склаў каля ста трыццаці кіламетраў і заняў тры дні. І гэта нягледзячы на сямідзесяцігадовы ўзрост! На шляху былі розныя цяжкасці: вецер, сонца, дождж, але ўражанне ад такой незвычайнай вандроўкі толькі пазітыўнае. Ён плануе ў наступным годзе заахвоціць яшчэ некалькі чалавек і разам адпраўляцца на монаколах у Будслаў.

“Гэта робіцца ў ахвяру на хвалу Багародзіцы. Малітва за наш край, за будучыню, каб людзі думалі не толькі пра штодзённы хлеб, але, як кажа Хрыстос, “не адзіным хлебам жыве чалавек”. Трэба, каб нас натхняла вера, якую мы атрымалі ў спадчыну ад продкаў”, – адзначыў святар.

У сваім слове да вернікаў, з якім арцыбіскуп Тадэвуш Кандрусевіч звярнуўся падчас святой Імшы, ён адзначыў, што разам з цяжкасцямі і выпрабаваннямі, што прынесла нам страшная пандэмія, яна адначасова паказала, што новы свет трэба будаваць на нязменных духоўных прынцыпах. Асабліва гэта датычацца нашай краіны.

Іерарх нагадаў словы Евангелля, у якіх распавядаецца, як Езус супакойвае мора, што разбушавалася. І прывёў аналогію з Беларуссю: “Карабель, імя якому Беларусь, сёння знаходзіцца на ўзрушаным сацыяльна-палітычнымі хвалямі моры. Выбары прэзідэнта, якія перад намі, павінны быць сумленнымі, свабоднымі і справядлівымі. Яны павінны адбывацца ў духу ўзаемапавагі паміж рознымі палітычнымі сіламі… Бог кліча нас да гэтай місіі, і мы павінны яе выканаць. Бо калі не мы, то хто? Калі не сёння, то калі?”

Пасля святой Імшы адбылася працэсія з копіяй абраза Маці Божай Будслаўскай, фігурай нябеснага апекуна Касцёла ў Беларусі святога Міхала Арханёла і абразом святой Барбары, якім біскупы на заканчэнне благаславілі з Нацыянальнага санктуарыя ўсю Беларусь.

А завяршыліся будслаўскія ўрачыстасці вячэрняй Імшой, якая распачалася а 18-й гадзіне 2-га ліпеня. Цэлебраваў яе Генеральны вікарый Мінска-Магілёўскай архідыяцэзіі біскуп Юрый Касабуцкі. Ён выказаў шчырую падзяку ўсім, хто спрычыніўся да падрыхтоўкі сёлетняга свята. У першую чаргу, гэта пробашч парафіі кс. Дзмітрый Дубовік, вікарый кс. Аўгуст Калясінскі, сястра-назарэтанка Таццяна Стасюкевіч. Ну і, вядома, усе вернікі парафіі ў Будславе.





## Ахвяруй на сайт Catholicnews.by, не выходзячы з дому

Дарагія сябры, ёсць магчымасць дапамагчы сайту Catholicnews.by фінансава.

Наш сайт абнаўляецца намаганнямі некалькіх чалавек. Рэдакцыя нясе транспартныя выдаткі, аплачвае паслугі хостынгу і інш. Мы залежым толькі ад Вашых ахвяраванняў! Дашліце нам ад 1 да 5 рублёў на месяц, і мы Вам будзем вельмі ўдзячныя!

Каб даслаць ахвяраванне, не трэба нікуды ісці. Зрабіць гэта можна з дапамогай уласнага мабільнага тэлефона, падзяліўшыся сваім балансам. Даслаць ахвяраванне колькасцю 1, 2, 3, 4 ці 5 рублёў можна, зрабіўшы наступнае:

Адпраўце USSD-запыт наступнага фармату:

*363*375295105172*2# – калі Вы хочаце ахвяраваць 2 рублі;

*363*375295105172*5# – калі Вы хочаце ахвяраваць 5 рублёў;

*(апошняя лічба ў кодзе абазначае памер ахвяравання).*

Вы атрымаеце на свой тэлефон USSD-паведамленне з кодам пацвярджэння. Дашліце USSD-запыт наступнага фармату:

*363*[код пацвярджэння]#

Вы атрымаеце пацвярджэнне паспяховай аперацыі з кароткага нумару 364. З баланса Вашага тэлефона будзе спісана 1, 2, 3, 4 або 5 рублёў, у залежнасці ад таго, якую суму Вы ахвяравалі.

Увага! Максімальны памер аднаразовага ахвяравання можа складаць толькі 5 рублёў. Каб даслаць большую суму ахвяравання, неабходна паўтарыць аперацыю.

Больш падрабязную інфармацыю па правілах ахвяравання чытайце на сайце mts.by

Увага! Прапанова актуальная толькі для абанентаў МТС.

Вялікі дзякуй за ахвяраванне на падтрымку сайта Catholicnews.by! За ўсіх ахвярадаўцаў кожны месяц адпраўляецца св. Імша! Будзьма разам! Няхай Добрая Вестка заўсёды будзе ў Вашым доме!

***Рэдакцыя сайта Catholicnews.by***



**Правільныя адказы на тэст са старонкі 9**

1 – Б; 2 – А; 3 – А; 4 – В; 5 – Б; 6 – А; 7 – Б; 8 – Б; 9 – В; 10 – Б


Каталіцкі ВЕСНІК
Газета Віцебскай дыяцэзіі

**Заснавальнік:** мясцовае рэлігійнае аб'яднанне “Віцебская дыяцэзія Рыма-Каталіцкага Касцёла ў Рэспубліцы Беларусь”

**Выдавец:** рэлігійная місія “Дабрачыннае каталіцкае таварыства “Карытас” Віцебскай дыяцэзіі Рыма-Каталіцкага Касцёла ў Рэспубліцы Беларусь”

**Галоўны рэдактар:** кс. Віктар Місевіч
**Тэхнічны рэдактар:** Дзмітрый Лупач
**Мастацкі рэдактар:** Леанід Юрык
**Рэдактар сайта:** Марына Сінкевіч
**Карэктары:** Юрась Бабіч, Алена Пажога

Газета набрана і зверстана на настольна-выдавецкім комплексе рэдакцыі газеты “Каталіцкі Веснік”, перададзеная па каналах сувязі і надрукавана ў УПП “Віцебская абласная друкарня”, г. Віцебск, вул. Шчарбакова-Набярэжная, 4
Заказ 3430

Выходзіць адзін раз на месяц на беларускай і рускай мовах
Тыраж 3300 экз.
Аб'ём 4 друкаваныя аркушы, фармат А3
Афсетны друк

Падпісана ў друк 15.07.2020 г. у 20.21

**Юрыдычны адрас:** 210041, г. Віцебск, вул. Чкалава, д.52, корпус 1
Тэл./факс: 8(0212)61-88-22
**Адрас для карэспандэнцыі:** 211793, вул. Савецкая, д.1, г. Глыбокае, Віцебская вобл.
Тэл.: 8(029)736-53-07
e-mail: katalickivesnik@gmail.com
http://catholicnews.by

ISSN 2224-9621





Наш падпісны індэкс 63783

Пасведчанне аб дзяржаўнай рэгістрацыі сродка масавай інфармацыі №1437 ад 5 красавіка 2011 года выдадзенае Міністэрствам інфармацыі Рэспублікі Беларусь